ЭКСТРАННЫ НУМАР

# ДЗЯРЖАВА

СТУДЭНСКАЯ ДУМКА

## НА ШЛЯХУ Ў ЭЎРОПУ

1дэя Беларускае нацыянальнае дзяржаўнасьц1 нашым1 заходн1м1 1 ўсходн1м1 суседзям1 заўседы ўспрымалася як штосьц1 нерэча1снае,м1ф1чнае 1 штучнае.Мянялася ўлада-мянял1ся прапагандысцк1я падыходы да падзеяў лютага--сакав1ка 1918 г.,а наша 1дэя -- 1дэя аднаўленьня сваей дзяржавы,захаваная ў сэрцы нашым1 бацькам1--не мянялася н1кол1.Ужо 72 гады мы жывем ва ўмовах савецкае акупацы1,але менав1та сёньня,кал1 руйнуецца 1мпэрыя--апошн1 зь перажыткаў фэўдал1зму ў Рас11 /як1 так й ня быў пераадолены расейск1м1 рэвалюцыям1 1917 году/,мы пераконваемся ў неўм1ручасьц1 1дэалаў, абвешчаных 25 сакав1ка 1918 году Трэцяй Устаўной граматай Беларускай Народнай Рэспубл1к1.

У пачатку XX стагодзьдзя кап1тал1зм,нарэшце,прыйшоў на земл1 народаў Усходняе Эўропы,кабвызвал1ць гэтыя народы ад рабск1х ланцугоў Аўстра-Вэнгэрскае ды Расейскае 1мпэрыяў,даць 1м нацыянальную свабоду.Уступаючы ў кап1тал1стычную фазу свайго разьв1цьця,Беларусь непазьбежна пав1нна была прыйсьц1 да ўтварэньня ўласнае нацыянальнае дзяржавы,да непасрэдных кантактаў з эўрапейскаю культураю,эўрапейскай цыв1л1зацыяй.Гэта лег1ка грамадзкага разьв1цьця.

Шлях да нацыянальнай свабоды кожны народ праходз1ць,пераадольваючы вял1к1я цяжкасьц1.Аднак,напэўна, н1водз1н народ ,спрабуючы адбудаваць сваю дзяржаўнасьць,не сустракаўся з гэткай масай варожасьц1,непаразуменьня ды адкрытага супрацьдзеяньня, як беларуск1 народ.Г1сторыя абвяшчэньня 1 стварэньня Беларускай Народнай Рэспубл1к1---самы лепшы таму прыклад.

Тады,72 гады таму,падзе1 разьв1вал1ся вельм1 хутка,як 1 сягоньня.З 17 на 18 сьнежня 1917 года бальшав1к1 Заходняе вобласьц1 разганяюць Пер

шы Ўсебеларускі зьезд сялянскіх,рабочых ды жаўнерскіх дэпутатаў,які, карыстаючыся 4 "Дэклярацыяй правоў народаў Расіі" ураду Леніна,абвясьціў сябе галоўным савецкім органам на Беларусі.

19 сьнежня нелегальна зьбіраецца Прэзыдыюм Рады Ўсебеларускага зьезду і абірае Выканаўчы Камітэт Рады ў складзе 17 чалавек на чале з Т.Грыбам.Выканаўчы Камітэт разам з Цэнтральнай Беларускай Вайсковай Радай пачынае актыўную дзейнасьць па падрыхтоўцы паўстаньня. За гэта бальшавікі арыштоўваюць 6 кіраунікоў Цэнтральнае Беларускае Вайсковае Рады на чале з Кастусем Езавітавым.

19 лютага 1918 г. бальшавікі сьпешна пакідаюць Менск,бо пачаўся нямецкі наступ.Улада ў месьце пераходзіць да Выканаўчага Камітэта Рады.20 лютага ён выдае Першую Ўстаўную грамату,у якой абвяшчае сябе часовай народнай уладай на Беларусі,у задачу якой уваходзіць склiканьне Ўсебеларускага Сойму для самавызначэньня беларускага народу.20 ж лютага сфармаваны Народны Сакратарыят Беларусі , старшынёю якога стаў Язэп Варонка.

21 лютага у Менск сталі прыбываць нямецкія вайсковыя часткі,камандаваньне якіх варожа паставілася да беларускае ўлады.Да таго ж амбіцыі на ўладу выяўлялі яшчэ й польскія легіянеры.Адказам на Першую Ўстаўную грамату стала забарона дзейнасьці Народнага Сакратарыяту,канфіскаваная яго ная каса,але сам ён ня быў разагнаны.

9 сакавіка 1918 г. І.Серада і К. Езавітаў уручылі нямецкаму камандаваньню Ўсходняга фронту Другую Ўстаўную грамату,складзеную на нелегальным сходзе Выканкаму Рады.Другая Ўстаўная грамата абвяшчала "у рубяжох расьсяленьня і лічэбнай перавагі беларусаў" Беларускую Народную Рэспубліку.Ею дэкляраваліся асновы будучай Беларускай Канстытуцыі.Немцы засталіся незадаволеныя тым,што прыймаючы гэты дакумант,Выканкам не параіўся з імі і не адзначыў становучую ролю Нямеччыны і нямецкае арміі ў справе стварэньня Беларускае дзяржавы. Але далей яны ня сталі забараняць легальную дзейнасьць Выканкаму.

Усе палітычныя партыі нацыянальных меньшасьцяў на Беларусі/у т.л.палякі/,былыя расейскія дзяржаўныя ўстановы/дума і земствы/ віталі Беларускую Народную Рэспубліку як фэдэратыўную частку будучае дэмакратычнае Расеі.Менская мястовая дума выдзеліла Выканкому 10 тыс. рублеў.Пачаліся перамовы паміж Выканкамам з аднаго боку і Менскай мястовай думай і прадстаўнікамі нацыянальных меньшасьцяў з другога боку аб стварэньні заканадаўчага воргану Беларускае Рэспублікі—Рады БНР.Такі ворган быў створаны 18 сакавіка і ўключыў у сябе 71 чалавека:36 чалавек-ад беларускіх партыяў/27 ад Рады зьезду і 9 ад павятовых радаў/,20- ад местовых самаўрадаў і земства,15 ад рэвалюцыйнай дэмакратыі нацыянальных меншасьцяў /7 яўрэяў,4 палякі,2 велікаросы,1 украінец,1 літовец/.На 24 сакавіка была прызначана сэсія Рады.

На гэты час ужо сталі незалежнымі Украіна і Літва,і гэта зрабіла пэўны ўплыў на незалежніцкі кірунак у беларускім руху.Акрамя гэтага яшчэ дзь

ве абставіны падштурхнулі ўрад БНР пайсьці на абвяшчэньне поўнае незалежнасьці ад Расеі. Гэта былі надзеі на прызнаньне БНР Нямеччынай,якая не даацэньвала сілы беларусаў у стварэньні сваёй дзяржавы,а таксама магчымасьць атрымаць дапамогу ад Украіны,якая магла даць яе толькі незалежнай Беларусі,а не частцы Расейскае фэдэрацыі.Да таго ж ,ва ўмовах станаўленьня суседніх дзяржаў узьнікла рэальная небясьпека адрыву ад Беларусі яе этнічных тэрыторыяў.

Прыехаўшая за два дні да сэсіі Рады дэлегацыя Віленскае Рады,зыходзячы з усяго гэтага,прапанавала ўнесьці на разгляд сэсіі пытаньне аб абвяшчэньні незалежнасьці БНР.23 сакавіка адбылося пасяджэньне фракцыі БСГ якая аднагалосна прыняла рашэньне аб унясеньні гэтае прапановы на разгляд Рады БНР.

Сэсія Рады БНР адчынілася 24 сакавіка а 8 гадзіне ўвечары.Вось як апісвае гэтае паседжаньне газета"Беларускі Шлях":

"Паседжаньне адкрылася заявай старшыні І.Н.Серады аб прысутнасьці на пасяджэньне дэлегатаў Віленскае Рады п.п. А.Луцкевіча,І.Луцкевіча,Я.Станкевіча,Г.Туркевіча.Рада прывітала гасьцей воплескамі.Пасьля таварыш Старшыні Я.Варонка сказаў прамову аб значэньні Вільні у гісторыі беларускага нацыянальна-культурнага адраджэньня /.../.Беларусы!- закончыў прамову Я.Варонка, - сягоньня Вялікдзень,сягоньня зноў духоўна аб'ядналіся Вільня і Менск,душа і цела,сягоньня беларус уваскрос!"

Адказваў на прывітаньне старшыня Віленскае Рады А.Луцкевіч,каторы зрабіў вялікае паведамленьне аб чыннасьці беларускіх арганізацыяў у Віленшчыне і Гродзеншчыне і даў здавальняючы адказ на ўсе запытаньні, зробленыя членамі Рады ў зьвязку з паведамленьнем.

Пасьля гэтага Рада ўставаньнем аддала пашану памяці вядомай беларускай пісьменьніцы,культурнага і палітычнага дзеяча - Цёткі - А.Пашкевіч.

Далей у парадку дзенным стаяла прапазіцыя Беларускай Сацыялістычнай Грамады разгледзець праэкт абвяшчэньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі.Прапазіцыя,выклікаўшы пратэст адной часьці Рады,была прынятая большасьцю галасоў.

Паведамленьне аб цяперашнім становішчу на Беларусі і тых прычынах,якія вымагаюць аб'яўленьня яе незалежнай Рэспублікай,зрабіў старшыня фракцыі Беларускай Сацыялістычнай Грамады А.А.Смоліч.Нарада над гэтым пытаньнем цягнулася 10 гадзінаў.З абодвух бакоў выступіла 26 прамоўцаў.

Пры наэлектрызаваным паветры была прынята пераважнай большасьцю пастанова,пададзеная "незалежнікамі".Рада БНР аб'яўляе Рэспубліку незалежнай і аб гэтым выдае стасоўную Устаўную грамату.

Мястовая група падала голас супраць пастановы,але засталася ў Радзе. Земцы,у ліку дзевяці чалавек на чале з старшынёю Менскага губернскага земства,заявілі аб выходзе/п.п. Злобін, Мацош,Шыманскі,Жылінскі і інш./. Ад падачы голасу ўстрымаліся прадстаўнікі аб'яднанай Яўрэйскай СП.

Прыняцце пастановы спаткала шум-

нас прыв1таньне Рады ў словах:"Няхай Жыве Беларуская Народная Рэспубл1ка!".

Адносна г1сторы1 БНР савецкая прапагандысцкая служба стварыла тры асноўныя м1фы – буржуазна-абшарн1цк1 характар улады, стварэньне БНР па загаду нямецкага ўраду з мэтай далучэньня Беларус1 да Нямеччыны ў якасьц1 сырав1ннага прыдатку, ёй так сама ста в1лася ў в1ну "ф1ктыўная" дзяржаўнасьць".

Як вядома Рада БНР 25 сакав1ка сфарм1равала новы Народны Сакратарыят незалежнае Беларускае Рэспубл1к1, у як1 ўвайшл1 прадстаўн1к1 тольк1 сацыял1стычных партыяў. Гэтк1м чынам, першы урад БНР быў сацыял1стычным урадам. Галоўнай беларускай пал1тычнай с1лай была Беларуская Сацыял1стычная Грамада, якая, як 1 сацыял1стычныя парты1 Заходняе Эўропы, адмаўляла неабходнасьць дыктатуры пралетарыяту, стаяла на агульнапрызнаных дэмакратычных пазыцыях.

Адносіны Бэрл1ну 1 нямецкага камандаваньня Усходняга фронту нельга назваць аднолькавым1. Бэрл1н недаацэньваў беларусаў у пытаньн1 адбудаваньня сваей дзяржаўнасьц1 1 не сьпяшаўся з прызнаньнем Беларускае Народнае Рэспубл1к1. Камандаваньне Усходняга фронту, бачачы на мейсцы актыўнасьць НСБ, з уласнае 1н1цыятывы ня ўмешвалася, а часам 1 дапамагала яму ў арган1зацы1 дзяржаўных структураў. Наступныя падзе1, непрызнаньне БНР – сьведчаць аб адным: БНР – не марыянетачная дзяржава/у адрозьн1ньн1 ад БССР/ створаная па чужынскаму загаду, а дзяржава, абвешчаная беларускай 1нтэл1генцыяй.




Безумоўна, дзяржава не ствараецца дэкларацыям1. Прыняцьце Акту Незалежнасьц1 заўседы ў г1сторы1 таго ц1 1ншага народу азначаў пачатак дзяржаўнага будаўн1цтва. Гэта было 1 на Л1тве, на Украiне, у Груз11, гэтак было 1 на Беларус1. З Акту 25 сакав1ка тольк1 пачыналася стварэньне беларускае дзяржавы, але абвешчаную незалежнасьць трэба было абараняць са зброяй у руках. 1 трагедыя БНР, усяго нашага народу ў тым, што ў вельм1 адказны час для нашае Радз1мы патрыёты Бацькаўшчыны ня здолел1 скансал1давацца, абаран1ць нашую Беларускую Рэспубл1ку.

Сьвяткуючы сёньня гадав1ну абвяшчэньня незалежнасьц1 Беларус1, мы ўпэўненыя: што не атрымалася тады-пав1нна атрымацца сёньня.

ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

С.Усьц1лоўск1

## »»»» ІНФАРМАЦЫЯ ««««

– 7–8 красав1ка г.г. у Гародн1 мае адбыцца традыцыйны рок-фэст "Рок – крок-90". Зь беларускамоўных гуртоў будуць "Мроя" ды "Ул1с". Магчыма, дасьць Бог, 1 "Бонда" зь "Мясцовым часам". Прыедуць беларуск1я студэнты з Польшчы. ЗАПРАШАЕМ У ГАРОДНЮ !!!

НАШ АДРАС: Беларусь, 220052, м Менск вул. Сурганава, д.86, кв.180
Вайцяхов1чу Зьм1церу тэл.31-73-70.
НУМАР ПАДРЫХТАВАЛ1: 1гар М1хно ды Вайцяхов1ч Зьм1цер 16-18 сакав1ка.
Друкавана накладам 5 тыс. экз.
ЧАКАЕМ Л1СТОЎ АД НАШЫХ ЧЫТАЧОЎ !!!